# Ніва

ISSN 0546—1939
ІНДЭКС 36671




№ 34 (1528) ГОД XXX БЕЛАСТОК 25 ЖНІЎНЯ 1985 г. ЦАНА 10 зл.




Рыгор Байко са сваімі здабыткамі

Фота Артура Дамашэвіча.

# БЕЛАВЕЖСКІ ЗБІРАЛЬНІК

77-гадовы Рыгор Байко з Белавежы — просты, неадукаваны селянін, але адначасова цікавы і незвычайны чалавек. У сваёй роднай мясцовасці вядомы перш за ўсё як збіральнік рознай старызны. Адкуль узялося такое нетыповае зацікаўленне ў старога вясковага чалавека?

„Збіральніцкую цягу, — гаворыць мне Р. Байко, — адчуваў я ад дзяцінства. Але больш свядома і арганізавана пачаў збіраць дзесьці 15 гадоў назад. Сталася так дзякуючы зносінам з вядомым на Беласточчыне нумізматыкам і калекцыянерам Здзіславам Новакам, настаўнікам Ляснога тэхнікума ў Белавежы, на жаль, памершым у ліпені г.г. Ён мяне многаму чаму навучыў і адначасова падахвоціў у далейшым збіранні. Збіраю ўсялякую старызну таму, што ўсё старое лічу каштоўным. Гэта ж сведкі нашай даўняй матэрыяльнай культуры! Зразумела, што адны прадметы мяне больш цікавяць, іншыя — менш, але і тымі ніколі не пагарджаю. Захоўваю іх у сябе для тых, якія на іх „палююць". Вось прыйдзе такі чалавек да мяне і аж у яго вочы засвецяцца, калі ўбачыць „свой" прадмет. Абавязкова ў такіх выпадках робім абмен. Я яму даю тое, што яго цікавіць, а ён мне тое, што мне патрэбнае. Утрымоўваю зносіны са шматлікімі калекцыянерамі з

(Працяг на стар. 3)

# ЯКОЙ ПАВІННА БЫЦЬ ГІСТОРЫЯ

### ІНТЭРВ'Ю З АЛЯКСАНДРАЙ БЕРГМАН

**— Вы, як даследчык заходнебеларускага грамадскага руху, здабылі шырокую папулярнасць. Раскажыце, калі ласка, аб крыніцах сваіх зацікаўленняў беларускай праблематыкай.**

— Зглыбляючы пытанні КПЗБ, наткнулася я ў польскіх архівах на процьму дакументаў аб беларускім руху, і хутка выявіла, што ніхто ў Польшчы аб гэтых дакументах не мае ніякага ўяўлення. Адкрыццё гэтае не толькі заахвочвала, але і абавязвала ўзяцца за работу. Асабліва вялікае ўражанне зрабілі на мяне справаздачы з сеймавых пасяджэнняў, прамовы беларускіх паслоў, атмасфера сеймавай залы ў час іх выступленняў, інфармацыі аб іх біяграфіях і г.д. Потым прыйшла да вываду, што найважная справа ў маёй працы не толькі ўменне знайсці адпаведны матэрыял, але, перш за ўсё, уменне правільнай вычыткі кожнага дакумента. І не здавацца гэтаму мору дакументаў, не патанаць у ім. Так я і ўцягнулася ў работу.

**— Вы напісалі дзве цікавыя кнігі: „Слова аб Браніславе Тарашкевічу" і „Беларускія справы ў II Рэчыпаспалітай". Раскажыце, калі ласка, гісторыю гэтых кніг.**

— У пачатку 60-х гадоў пры Інстытуце гісторыі партыі дзейнічаў калектыў былых дзеячаў КПЗБ. І я ў ім была. Выказваліся тут думкі, што глыбей займацца гісторыяй Заходняй Беларусі, уласна кажучы, не маем права. Гэта, маўляў, справа выключна гісторыкаў Савецкай Беларусі. Такіх думак я не падзяляла. Надалей лічу, што перыяд, якім я займалася, належыць, перш за ўсё, гісторыі Польшчы, і вывучэнне яго — наш абавязак. Працавала я, значыць, у неспрыяльнай атмасферы. Па меры ўзрастання майго зацікаўлення справамі Грамады, яна ўсё больш „згушчалася". У калектыве былі таварышы, якія дзейнічалі ў КПЗБ і цяпер займалі высокія партыйныя і дзяржаўныя пасады. Некаторыя з іх нават звярнуліся ў рэдакцыю „З поля валькі" (1962), каб тая не

(Працяг на стар. 5)

## АДГАЛОСКІ

### У АБАРОНУ ЖАНЧЫН

Міхась Махнацкі скардзіцца на сваю жонку і адначасова прапануе мужчынскія клубы. „Можна пазайздросціць мужчынам, якія недзе маюць свае клубы, куды жанчын не пускаюць. Там, у тых клубах, утапіўшыся ў мяккае крэсла, мужчына можа спакойна пачытаць і адпачыць..."

Але з вас эгаіст, пане Махнацкі! Мужчына адпачыў бы, а жанчына горшая, ці як? Але пацешу вас трохі. Не толькі вы з'яўляецеся эгаістам, усе мужчыны такія.

Мая добрая знаёмая аднойчы ехала цягніком у Беласток. У купэ сядзела група мужчын і вось аб чым яны гутарылі:

— Што, на суд едзеш?

— А ну, еду. Вось праклятая! Помсты захацела. Піць я люблю і, калі вып'ю, то і дам некалькі разоў па твары ды па задніцы. Яна страшыла, а раз нават пагразіла, што калі яшчэ наб'ю — у суд падасць. Я не паслухаўся і вось цяпер маю за сваё. Але...

— Во-о-о-о! У цябе яшчэ добры характар. Я паказаў бы ёй суды! З хаты не пусціў бы, а калі б не па-мойму слова сказала, то так даў бы, што адны сінякі былі б на шкуры.

І давай яны апаганьваць жанчын. Усе, апрача аднаго, былі згодныя, што жанчыны кепскія. Па-іхняму, калі мужчына п'яны прыйдзе дамоў, то замест таго, каб абняць, пацалаваць і па галаве пагладзіць ды сказаць: а мой ты прыгожы, дарагі, адна з другою маўчыць і ўцякае як ад заражанага.

— Праклятыя бабы! Біць такіх і рук не адымаць! — злосна крычалі яны.

Адзін, які дагэтуль сядзеў моўчкі, перабіў гэтую балбатню:

— Мужчыны, — пачаў ён, — а што было б, каб так вы надзелі бабскую спадніцу і рабілі іхнюю работу, а хтось прыходзіў п'яны дахаты і біў вас абы за што?

Усе прыціхлі і задумаліся. Цягнік набліжаўся да Бельска. Грамадка пачала падыходзіць да дзвярэй. Каму ў суд трэба было ісці, а каму на работу.

Здавалася б, што вось той мужчына, які адазваўся апошні, напэўна добры муж. Але так сапраўды ніхто не ведае, які ён. Ведаю аднаго мужчыну, які ў людзях захоўваецца як анёл, а ў хаце як чорт. Меў тры жонкі, якія ўсе не маглі сцярпець яго адносін, і адыйшлі. Ажаніўся з чацвёртаю і адносіцца да яе, як да ўсіх папярэдніх жонак. Гэтая

(Працяг на стар. 4)

## НА МЯЖЫ

### АБ ПРАМІНАННІ (XI)

Калі разабрацца, дык наша жыццё з'яўляецца нічым іншым, як паміраннем. Павольным паміраннем, якога не заўважаем у дзяцінстве, якога не бярэм пад увагу ў часе маладосці, а якое так моцна напамінае аб сваёй прысутнасці падчас старасці і выпаўшымі зубамі, і згорбленасцю, і глухатой, і слепатой, і Бог ведае якімі хваробамі.

Заканчваючы свае разважанні аб праміненні, хацелася б мне звярнуцца са свайго роду заклікам да двух асноўных катэгорый грамадства: да старых і маладых. Справа ў тым, што паміж гэтымі дзвюма катэгорыямі людзей у істоце ніколі не было ўзаемазразумення і талерантнасці. Праўда, старыя, асуджаючы маладых, вельмі часта стараюцца супрацьставіць ім сваю маладосць, даказваючы, што будучы маладымі яны адносіліся з пашанай і любоўю да старэйшых. Не адкідаючы пэўнай розніцы ў этыцы сённяшняга пакалення і пакалення, маладосць якога прамінула пяцьдзесят гадоў таму назад, трэба сказаць, што на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва выступалі канфлікты паміж бацькамі і дзецьмі, а гаворачы шырэй, паміж пакаленнямі, і гэтыя канфлікты будуць існаваць так доўга, як будзе існаваць чалавецтва.

Што ж з'яўляецца косцю нязгоды паміж пакаленнямі? Мабыць усё, пачынаючы ад моды, а канчаючы на этыцы. Старыя папракаюць маладых у разбэшчанасці, свавольстве, лянoце, недысцыплінаванасці, безадказнасці. А маладыя прыпісваюць старым адсутнасць талеранцыі, кансерватызм, скупасць, празмерную суровасць, умешванне ў справы маладых.

Кожны чытач, які ўважліва прыглядзіцца да ўласнага і чужога жыцця, мог бы, думаю, яшчэ ўзбагаціць гэты пералік прэтэнзій многімі іншымі фактамі. Аднак справа не ў павелічэнні гэтых адмоўных фактаў на паперы, але ў памяншэнні іх у жыцці. А ці гэтае памяншэнне ўвогуле магчымае? Гаворачы праўду, я вельмі гэтага прагну, але не вельмі ў гэта веру. Бо вядома, што калі ў нашу эпоху досыць гвалтоўна павялічваецца колькасць розных паталагічных з'яў, дык досыць цяжка паверыць, што ў галіне адносін паміж пакаленнямі наступіць радыкальная змена на лепшае. І ўсё ж такі, нягледзячы на ўсё гэта, хочацца мне верыць, што можа наступіць пэўная памяркоўнасць у адносінах паміж людзьмі. Здаецца мне, што такое станецца магчымым тады, калі кожны з нас усвядоміць, што і ён, так як і ўсе раней жыўшыя людзі, на зямлі толькі пералётны жораў, што і ён, так як і ўсе другія яго папярэднікі, кане ў бездань небыцця. Бо якраз такі, а не іншы непазбежны закон праміняння, якому кожны з нас падлягае. А калі прамінае ў свеце ўсё дык і прамінуць нашы злосці, нянавісці, каханні, зайздрасці, імкненні, палкасці і страсці. І непадкупная смерць зраўняе нас усіх канчаткова. А калі так, дык ці варта скакаць сабе да вачэй? Ці варта даказваць толькі сваю рацыю і праваты? Ці варта прагнуць у жыцці толькі перамогі? Ці не лепш унутрана супакоіцца і старацца згарманізавацца з прыродай? Ці ж не варта часцей выходзіць вечарамі пад зорнае неба, узірацца ў бяздонную яго глыбіню і з яго безбярэжнай прыгажосці і дабрыні чэрпаць нешта і пераліваць у сваю душу? Варта!

**Алесь Барскі**

## Весткі з Беларусі

### МАДЭЛІ ЗАЎТРАШНЯГА ДНЯ

Адзін з буйнейшых меліярацыйных аб'ектаў у пойме ракі Зяльвянкі стаў уласнасцю адразу некалькіх калгасаў і саўгасаў Зэльвенскага раёна. Земляробы атрымалі тут каля 16 тысяч гектараў урадлівай зямлі.

Рукатворнае возера паглынула веснавую паводку і праз асушальна-ўвільгатняльныя збудаванні нават у гарачае лета напоіць навакольныя палі.

Гэтая сістэма адкрывае лік аб'ектам комплекснага меліярацыйнага і сельскагаспадарчага будаўніцтва, прадугледжаным доўгатэрміновай праграмай. Спецыялісты прааналізавалі розныя спосабы меліярацыі забалочаных масіваў. Перавагу аддалі сістэмам з двайным рэгуляваннем вільгаці, а таксама польдэрам, дзе ўраджайнасць сельскагаспадарчых культур намнога вышэйшая ў параўнанні са звычайным асушэннем.

У комплекс работ уваходзіць будаўніцтва дарог, добраўпарадкаванне аграгарадкоў, а таксама аснашчэнне гаспадарак навейшым абсталяваннем.

Улічана і ахова навакольнага асяроддзя. У першапачатковым выглядзе застаюцца асобныя ўчасткі, лясныя масівы ўздоўж мелказалягаючых тарфянікаў. Ахоўныя палосы засцерагаюць іх ад ветравой і воднай эрозіі. Толькі гэта дае прыбаўку збожжа да трох цэнтнераў на кожным гектары.

У праекціроўшчыкаў ужо ёсць і больш дасканалыя мадэлі меліярацыйных сістэм. На эксперыментальным аб'екце „Лясное" ў Капыльскім раёне, напрыклад, расліны атрымліваюць не толькі дастатковую колькасць вільгаці, але і жыўленне, цяпло незалежна ад надвор'я.

### АХВЯРАМ ВАЙНЫ

Помнік, які адкрыты ў гарадскім пасёлку Дзятлава Гродзенскай вобласці, заўсёды будзе напамінаць людзям аб трагедыі, якая адбылася больш чатырох дзесяцігоддзяў назад.

Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі раёна быў адкрыты інтэрнацыянальны піянерскі лагер, дзе разам з беларускімі равеснікамі адпачывалі дзеці з Іспаніі, Італіі, Чэхаславакіі, Кітая, Карэі. Здарылася так, што іх не паспелі эвакуіраваць. Дзецям, адарваным ад дома і родных, давялося зведаць усе жахі фашысцкай акупацыі. Мясцовыя жыхары па меры сіл дапамагалі дзецям але ўсё ж семдзесят малых, у тым ліку дастаўленыя сюды гітлераўцамі на другі год вайны іх равеснікі з-пад Ленінграда, памерлі ад эпідэмій і голаду.

Былыя выхаванцы інтэрнацыянальнага піянерскага лагера ўсклалі кветкі да падножжа помніка.

### СПОРТ

■ На матчы лёгкаатлетаў СССР і Паўночных краін, які адбыўся ў Нарвегіі, мінчанін Аляксандр Васільеў стаў пераможцам у бар'ерным бегу на 400 метраў і ўстанавіў новы рэкорд краіны — 48,33 секунды.

■ Жаночы чэмпіянат Савецкага Саюза па веласпорту быў праведзены ў Чарнаўцах.

У каманднай гонцы па шасе першае месца занялі спартсменкі таварыства „Дынама". У складзе гэтай каманды выступала беларуская велагоншчыца Святлана Грэкава.

■ Мінчанка Ірына Ушакова ўзнагароджана бронзавым медалём на чэмпіянаце свету па фехтаванню. Каманда СССР, за якую выступала беларуская спартсменка, у барацьбе за трэцяе месца нанесла паражэнне зборнай Польшчы — 8:7.

■ У Швецыі прайшоў чэмпіянат Еўропы па водналыжнаму спорту. Па скачках з трампліна сярэбраным прызёрам стала Алена Мазоўка з Мінска. „Бронза" ў яе зямлячкі Марыны Амельянчык.

## Бібліяграфічны куточак

Jerzy Turonek — Statut Białorusi w Komisariacie Rzeszy Ostland. „Studia z dziejów ZSRR i Europy Środkowej" (Wrocław), R. 1984, T. 20, s. 165-186.

Marian Banaszek — Początkowe szkoły kolejowe w Królestwie Polskim i na Białostocczyźnie w latach 1875—1920. „Rozprawy z Dziejów Oświaty" (Wrocław), R. 1984, T. 27, s. 59—89.

Bazyli Niedźwiecki — Na spotkanie z wyżem. (Budownictwo oświatowe w Bielsku Podlaskim). „Oświata i Wychowanie" (W-wa), Wersja A, R. 1984, Nr 15, s. 9-11.

Piotr Łuczka — Łacinnicy-greko-katolicy-prawosławni. Rozmowa z J. Wisłockim. „Nurt" (Poznań), R. 1984, Nr 9, s. 12-14.

Danuta i Zdzisław Hajdukowie — Fauna Hirudinea środkowego i dolnego odcinka rzeki Biebrzy i jej starorzeczy. „Wiadomości Parazytologiczne" (W-wa), R. 1984, Nr 2, s. 241-248.

Henryk Okruszko — Jak ochronić ekosystem bagienno-wodny Górnej Narwi? „Aura" (Kraków). R. 1985, s. 8-10.

(m.) 3 „Las" w Hajnówce, „Las Polski" (W-wa), R. 1985, Nr 8, s. 17-18.

Cecylia Paszek — Żubry na tacy, wilki we fladrach, czyli foto-safari po polsku. „IMT — Światowid" (W-wa), R. 1985, Nr 5, s. 3, 16-17.

Małgorzata Piotrowska, Eugeniusz Pugacewicz — Świat, który nie powinien zaginąć: Dolina Narwi „Przyroda Polska" (W-wa), R. 1985, Nr 2, s. 23-25.

Wasyl Bykow: Gdybym miał siły — opisałbym każde zabrane przez wojnę życie... Rozmowę z pisarzem przeprowadził W. Chodowski z APN. „Morze i Ziemia" (Szczecin), R. 1985, Nr 19, s. 8-9.

**П. Байко**

## На Захадзе без перамен

### ДЫПЛАМАТЫЯ КАНАНЕРАК

У Вашынгтоне любяць казырнуць, што калі яны снедаюць ці палуднуюць, ніякія падзеі — няхай хоць гэта будзе сусветны патоп — не могуць сапсаваць ім апетыт: маўляў, у нас моцныя нервы і мы спакойна даядзім сваю ранішнюю яечню з вяндлінай ці традыцыйны абедзенны пудзінг. Нельга не звярнуць увагу на тое, што ў апошні час прэзідэнт Рэйган усё часцей аддае перавагу абедам у кампаніі марскіх пехацінцаў. Неяк, частуючы іх у сваёй загараднай рэзідэнцыі ў Кэмп-Дэвідзе, ён з пафасам назваў іх людзьмі, якія „робяць гонар Амерыцы і ўсяму свабоднаму свету". Вось так: робяць гонар! Растаптаўшы суверэнітэт невялічкай Грэнады, зруйнаваўшы агнём 16-дзюймовых гармат прыбярэжныя мірныя паселішчы ў Ліване, яны гатовыя сёння па камандзе з Белага дома ўварвацца на зямлю Нікарагуа.

Нападзенне на Грэнаду ў Вашынгтоне крывадушна назвалі „хірургічнай аперацыяй". Заакіянскія „хірургі" хацелі б перайначыць свет на свой лад, трымаць увесь зямны шар пад прыцэлам.

„Кожны, хто падрывае нашы правы, — пагражае прэзідэнт Рэйган, — у будучым не зможа класціся спаць з цвёрдай упэўненасцю ў тым, што Амерыка яшчэ не зрабіла ніякіх крокаў"...

Што ж, у гэтым плане з упэўненасцю сапраўды не ўсё ў парадку. Бо занадта многа на сённяшні дзень зрабіў Вашынгтон такіх крокаў, што выклікаюць трывогу. У Белым доме імкнуцца зарэзерваваць за сабой права на дыктат, права на агрэсію.

Выступаючы следам за прэзідэнтам Рэйганам з пагрозамі ў адрас Рэспублікі Нікарагуа, адзін з найбольш адыёзных прадстаўнікоў заакіянскай ястрабінай зграі: кангрэсмен Роберт Майкл нахабна заявіў: „Наша сіла будзе прыменена належным чынам". І далей: „Гэта наша паўшар'е. Мы пачынаем ставіць тут свае ўмовы".

Так і хочацца сказаць: кіньце, панове! Гэта паўшар'е даўно ўжо не тое, якім бы вы хацелі яго бачыць! І хоць і крычаць сёння на Капіталійскім узгорку, што ў дыпламатыі кананерак новы кароль, які можа пераплюнуць небезвядомага Тэдзі Рузвельта, Беламу дому не ўваскрэсіць ганебнае мінулае, калі з дапамогай „вялікай дубінкі" колішняга прэзідэнта ЗША Тэадора Рузвельта амерыканскі імперыялізм дыктаваў сваю волю лацінаамерыканцам.

**А. К.**




# У ТРАПІЧНЫХ ЛЯСАХ ЛАЦІНСКАЙ АМЕРЫКІ

У жніўні 1865 года з Тулона на катаргу ў Французскую Гвіяну ў труме фрэгата „Амазонка" адпраўлялі некалькі сотнень зняволеных. Добраўпарадкаваныя каюты наверсе займалі афіцэры, чыноўнікі і купцы. Між верхнім і ніжнім ярусамі знаходзіліся памяшканні для жандараў і варты. Тут жа плыў і малады пасажыр, які ехаў у Амерыку вывучаць яе багаты жывёльны свет.

Яго звалі Канстанцінам Ельскім. Нарадзіўся К. Ельскі ў сяле Ляды Смілавіцкай воласці Ігуменскага павета Мінскай губерні 17 лютага 1837 года ў сям'і абяднелых дваран. Па маці ён даводзіўся сваяком вядомаму кампазітару Станіславу Манюшку, ураджэнцу тых жа мясцін.

Пасля заканчэння Мінскай гімназіі К. Ельскі вучыўся на медыцынскім факультэце Маскоўскага універсітэта і матэматыка-прыродазнаўчым факультэце Кіеўскага універсітэта. Затым ён выкладаў у Кіеве ў гімназіі і вывучаў жывёльны свет Украіны, быў адным з першых у Расіі прыхільнікаў эвалюцыйнай тэорыі Ч. Дарвіна.

Жыццё ўнесла папраўкі ў навуковыя планы маладога даследчыка. Вясной 1863 года ў Кіеў прыехаў гімназічны таварыш К. Ельскага вучоны — заолаг Б. Дыбоўскі. Ён прывабіў сярод рэвалюцыйна настроенай моладзі падрыхтоўку да маючага адбыцца паўстання супраць царызму. Неўзабаве пачаліся арышты, і К. Ельскі, апасаючыся праследаванняў, пераходзіць румынскую граніцу і працуе ў Турцыі геолагам. Пазней ён пераязджае ў Парыж, адкуль і накіроўваецца ў Гвіяну.

К. Ельскі прыбыў у цэнтр французскай калоніі Каену, дзе стаў працаваць памочнікам фармацэўта. Сваё знаходжанне ў Каене вучоны пазней апісаў у „Папулярна-прыродазнаўчых апавяданнях, што выйшлі ў свет пасля яго смерці.

Даследчык збіраў птушак, кажаноў, насякомых, якіх было вельмі многа ў тропіках. Ён плаваў па рэках Ко, Аяпок, Тапраба, Мароні, Уасе ўнутр Гвіяны, лячыў хворых на астравах Выратавання — Каралеўскім, Сан-Жазеф, Чортавым, на якім размяшчалася Каенская катарга.

Каб лепш вывучыць прыроду Гвіяны, К. Ельскі згаджаўся выязджаць для работы ў самыя аддаленыя месцы краіны. Ён замяняў урача ў бальніцы для пракажоных на Сярэбранай гары і ў аптэцы ў паселішчы для ссыльных у Сан-Ларане.

Даследчык апісваў звычайныя для тропікаў, але зусім невядомыя на яго радзіме віды жывёл — ляніўцаў, малпаў, браняносцаў, трапічных мурашак. Не менш, чым жывёлінам, ён удзяляў увагу трапічным раслінам — прыгожым архідэям, шматлікім відам ліян і пальм, лясам з рызафор — дрэваў, што выпускалі карэнні з пнёў і галінак у паветра. Праз карані яны набіралі вільгаць з насычанага вадзянымі парамі трапічнага паветра. У рызафорных лясах жылі асаблівыя, уласцівыя толькі ім віды жывёл.

Нямала ўвагі ў сваіх нарысах К. Ельскі ўдзяляў і гаспадарчаму выкарыстанню багаццяў прыроды Гвіяны. З карэнняў дрэўца маніёка мясцовыя негры рабілі крупы „куак", маладое лісце вярхушак пальм ішло ў ежу свежым ці печаным. Кару рызафор выкарыстоўвалі для дублення скуры.

К. Ельскі жыў разам з мясцовымі індзейцамі, якія часта перасяляліся з месца на месца, забіраючы з сабой для новых агародаў сцябло маніёка, зерне кукурузы, бавоўны і гарбуза. Абарыгенаў станавілася ўсё менш і менш. „Індзеец гіне, таму што зведвае цывілізацыю пры дапамозе прагных купцоў, якія за гарэлку атрымліваюць усё, што індзеец можа здабыць", — пісаў наш зямляк.

У 1869 годзе К. Ельскі пераехаў з паўночнага ўзбярэжжа Паўднёвай Амерыкі, з Гвіяны на яе заходняе ўзбярэжжа — у Перу. Тут вучоны вывучаў фауну ваколіц сталіцы краіны Лімы, пераправіўся цераз Анды ў даліну Чанчамаё і ў раён возера Хунін. Працаваў К. Ельскі ў прыродазнаўчым музеі ў Ліме. У 1875-1878 гады разам з вучоным Я. Штольцманам К. Ельскі даследаваў паўночныя раёны Перу на мяжы з Эквадорам, вывучаў прыродны свет даліны вярхоўяў ракі Мараньён (Амазонка). Гэтыя даследаванні апісаны Я. Штольцманам у яго двухтомнай кнізе „Перу".

У 1878 годзе К. Ельскі вярнуўся ў Еўропу. Ён працаваў спачатку ў Варшаве, а затым у Кракаве ў Акадэміі навук і на вышэйшых жаночых курсах прыродазнаўства пры Прамысловым музеі. Памёр даследчык 26 лістапада 1896 года.

Заолаг адкрыў новыя віды трапічных жывёл. Яго імем названы асобныя віды птушак і звяроў.

**Валянцін Грыцкевіч**

# БЕЛАВЕЖСКІ ЗБІРАЛЬНІК

**(Працяг са стар. 1)**

цэлай дзяржавы. Тэрыторыя майго збірання даволі шырокая. Наведваю розныя звалкі, жыхароў навакольных вёсак, часта складаю візіт у беластоцкай „Дэсе"."

Калі Г. Байко паказвае мне свой збор, вочы проста разбягаюцца і не хочацца верыць, што ўсё гэта сабраў адзін чалавек. Перш за ўсё маю ўвагу прыцягваюць самавары. Ёсць іх толькі 10, але затое ўсе вельмі каштоўныя і старыя — з канца XIX ст. Асабліва цікавыя тыя, якія выкананы на заводах В.С. Баташава з Тулы (на адным з самавараў ёсць адбіткі аж 25 медаляў, прызнаных вырабу) і Глазевіча з Варшавы. Вельмі прыгожая калекцыя прасаў на вугаль (каля 20 штук), польскіх і рускіх банкнотаў і манетаў (найстарэйшая манета выбіта ў 1705 г.), прымусаў, французскіх падсвечнікаў, польскіх і царскіх медаляў і значкоў, пасудзіны з канца XIX і пачатку XX стаг., рознага тыпу вагаў, гаспадарчых прылад. Увагу прыцягваюць таксама фрагменты розных старых аздобаў, прадметы штодзённага карыстання, старыя іконы, французскі насценны гадзіннік, нямецкі ліхтар і шмат, шмат іншых прадметаў. Праўду кажучы, чаго б толькі чалавек не прыдумаў, тое ў Г. Байко можна знайсці. Аж цяжка ў гэта паверыць.

Відома, што такая безліч прадметаў патрабуе адпаведнага, абшырнага памяшкання. На жаль, у белавежскага збіральніка такога памяшкання няма. Таді ён і паўпіхаў свой збор ва ўсе свабодныя закуткі ў сваёй сядзібе. Не заўжды гэта якраз найлепшыя месцы, а і з боку дамачадцаў ёсць пратэсты. Але Г. Байко, здаецца, пагадзіўся з гэтым і прынамсі на пратэсты рэагуе адной толькі ўсмешкай. Хаця, як мне выявіў, носіцца ўжо даволі доўга з думкай, каб зрабіць „перападлік" у сваёй калекцыі і большую яе частку прадаць іншым збіральнікам. Грошы хоча прызначыць на рамонт хаты.

Напэўна белавежскаму збіральніку будзе цяжка расстацца са сваімі здабыткамі, але калі яны трапяць у адпаведныя рукі, кошты і труд, пакладзеныя ў іх адшуканне і захаванне, не будуць дарэмныя. І хаця стары селянін не дачакаўся зразумення ні ў сваёй сям'і, ні ў сваіх суседзяў, якія яго незвычайнае захапленне лічаць проста дзівацтвам, ён пройдзе ў гісторыю сваёй мясцовасці як той, хто выратаваў ад забыцця немалую частку матэрыяльнай культуры. Каб больш нам такіх людзей!

**Пётр Байко**




# МАМАЧКА

Ох, як прыгожа мне было
Сядзець пры мамачцы маёй.
Я слухала ахвотна
Аб тым жыцці дарослым.

Што цяжка ёй было,
Не верыла аднак,
І ўсё хацела я
Стаць дарослай.

І я расла, як хацела.
Усё прыбывала мне гадоў.
Ах, мама, мамачка, прабач,
Цяжкая твая доля.

Нямала слёз ты праліла.
Мне хочацца сказаць:
— Прабач, я больш не буду.
Сэрца сціскаецца,

Не хватае простых слоў.
Як быць шчаслівай з мамай?
Прымі верш гэты, мама, мой
І ўсё прабач, прабач.

**Аніта Ноэль**



Дарожныя партрэты. Солтыс з Кожына Андрэй Лук'янюк.
Фота В. Рудчыка.

**БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ**

Ад пачыну дзела залежыць.

*

Адсячэш — не прыставіш.

*

Акуратная работа акуратных людзей любіць.




(Працяг са стар. 1)

чацвёртая бедная, не мела куды адыйсці і так змарнавала цэлае жыццё. Аднойчы злітаваліся былі над яе лёсам брат з братоваю і хацелі забраць да сябе. Ён даведаўся і, каб яна не магла адыйсці, зрабіў яшчэ адно дзіця. Так і засталася маладзіца на ўласнае няшчасце. Купляць ёй нічога не купляе. Купіць толькі тады, калі чужыя жанчыны, убачыўшы яго ля крамы, смехам-жартам увапхнуць у краму і рознымі словамі „прымусяць“ купіць нейкую рэч жонцы з вопраткі.

Колькі бывае такіх выпадкаў, што пачынае хадзіць хлопец да дзяўчыны і робіць усё, каб паказацца з найлепшага боку. Прыносіць кветкі, шакаладкі і стараецца памагаць ва ўсім. Здаецца — анёл, не чалавек. Затое, калі выйдзеш за яго замуж, пакажа сваю рагатую душу. Калі зацяжарыш — чакае сына. Калі народзіцца дачка — злуе, хаця няма за што. Калі ж народзіцца сын — дык што? Паможа гадаваць? Ніколі гэтага не зробіць. Дзіцё ўначы плача, а ён з хаты выганяе. Калыхаць не паможа, але калі змучаная жонка прыляжа на ложак, хутка лезе на яе. Вось якія мужчыны. Вары ім есці, мый нагавіцы і яшчэ спі ў адной пасцелі, а ім усё кепска і ніколі не дагодзіш.

Можа хтось скажа, што ў мусульманаў жанчыны ўвогуле не маюць правоў. Але ж мы не мусульмане і ў нас жанчыны маюць роўныя правы з мужчынамі. Дык чаму ж не можа быць так, каб мужчыны памагалі жанчынам у хатняй працы? Мо арганізаваць школы, у якіх вучылі б хлопцаў і мужчын варыць есці, сціраць бялізну, апекавацца дзецьмі і г.д.? Можа тады наступіла б поўная эмансіпацыя жанчын?

Прыходзіць муж з жонкаю з працы, муж бярэ ў рукі газету ці кніжку і чым хутчэй лягае на версальку. Ён змучаны і яму трэба адпачыць. Жонка таксама змучаная, але ёй трэба варыць абед і заняцца дзецьмі. Дзе ж тут раўнапраўе вы бачыце?

Пакуль што, усе сядзяць ціха і ніхто не думае, як аблегчыць лёс жанчыны. Ды і самі жанчыны сядзяць як мышы пад мятлой. Калі каторая кіне мужазлачынцу, то апляткуюць яе як след.

Я прапаную жаночыя клубы! Ачуняйце, жанчыны! Скіньце ўсе астанкі свайго нявольніцкага стану! Давайце станем арганізоўваць свае клубы, у якія мужчынам нельга будзе ўвайсці.

Хаця раз у месяц кожная вясковая і гарадская жанчына змагла б адпачыць ад штодзённага жыцця. Няхай у гэты дзень мужы заняліся б хатай і дзецьмі. Няхай пераканаліся б, як выглядае адзін жаночы дзень. Жаночыя клубы павінны быць!

**Аўрора**





Каласы лета.

Фота Юркі Трачука.

# СУСТРЭЧА З ЯКАВАМ

Не раз я думаў напісаць некалькі слоў у „Ніву“ пра старога чалавека, Якава Пыжа з Кашалёў. Набліжаецца сотая гадавіна з дня яго нараджэння. Спадзяваўся я, што можа хто-небудзь іншы напіша, можа праўнукі Якава, ці хто з Кашалёў. Але, чытаючы газету, не прыкмеціў нічога пра яго і рашыў сам гэта зрабіць.

Якаву Пыжу цяпер 97 гадоў Усё жыццё ён быў селянінам, меў малую гаспадарку. З апошняй гутаркі з ім я даведаўся, што вёска Кашалі мела 40 участковых гаспадароў. На ўчастак складалася 12 дзесяцін зямлі. З часам участковыя гаспадары мусілі дзяліць зямлю на сыноў, ці даваць яе дочкам у пасаг. І так гаспадаркі раздрабняліся. Цяпер слова ўчастак не існуе, а зямля мерыцца на гектары.

У 1886 годзе вёска Кашалі мела 407 дзесяцін лугоў і пашаў, 55 дзесяцін няўгоддзяў. Усяго разам 668 дзесяцін.

Многа змянілася з тых часоў. Кашалі аддзяляе цяпер ад Орлі адлегласць 300 метраў. А да 60-х гадоў дарога ў Орлю цягнулася два кіламетры. Пехатой можна было прайсці праз кладку на рацэ Арлянцы і тады было блізка. Кашалі ляжаць за рэчкай Арлянкай.

З дзяцінства Якаў памятае, што Кашалі ад Орлі аддзяляў немалы лес. Калі ж у Орлі пабудавалі керамічную фабрыку-кафлярню, людзі лес рубалі і прадавалі на фабрыку на выпальванне кафляў. Цяпер на месцы даўнейшага лесу маем прыгожую даліну Арлянкі: роўны луг у кветках або ў капіцах сена. Краявід прыгожы!

Нічога асаблівага не даведаўся я ад Пыжа пра харчаванне ў яго доўгім жыцці. Ён еў многа капусты варанай і сырой, часта варылі боршч з буракоў, бульбу, моркву, пяклі свой хлеб, а калі былі ўжо грыбы, то часта варылі боршч з грыбамі або елі смажаныя грыбы. Мяса многа не было, от, пад Ражджаство ці пад Пасху то калолі вепручка. Малако заўсёды было сваё, і свежае, і кіслае, свой белы сыр, а часам то і масла.

Працаваць трэба было, але як чалавек стаміўся, то адпачываў. Не працаваў так, каб упасці на нос, не наядаўся так, каб быў вельмі сыты. Яго бацькі называліся Ціханюкі. Толькі ў 1886 годзе прозвішча запісалі на Пыж. Але не толькі ў яго, у іншых таксама памянялі прозвішчы. Напрыклад, Валасовічы называліся Лада, а Качаны — Хіліманюкі. Засталіся і прозвішчы падвойныя. Чаму памянялі прозвішчы, Якаў Пыж не ведае.

Цяперашняе жыццё лепшае. Стары чалавек мае свой грош. Спакайней жыве на старасць. На заканчэнне нашай гутаркі Якаў Пыж сказаў, што адчувае сябе слабейшым, ужо сёлета не ходзіць у лес па бярэзіну, каб зрабіць некалькі венікаў і, мусіць, не пойдзе збіраць грыбы.

**М. Ляшчынскі**

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# ГРАДАЛІ

У гэтую мясцовасць трапіць працей простага: па добрай асфальтоўцы з Бельска Падляшскага ў Кляшчэлі, каля вёскі Пашкоўшчына трэба крута павярнуць управа і, праехаўшы кіламетр-паўтара, вы ўжо ў Градалях. Ужо тры іх часткі: Градалі, Пескі і Шпітале папярэджваюць, што гісторыя гэтай мясцовасці была багатая і складаная. І сапраўды. Як згадвае жывы летапіс гэтай мясціны Іван Бурыла з 1897 года нараджэння — селянін дасціпны і надта ж даходлівы ў даўніне — пачатак Градалям даў нейкі чалавек па прозвішчы Градэль. І мабыць, не памыляецца, бо на Падляшшы ёсць сяляне з гэтым старажытным прозвішчам, якое сваімі карэннямі сягае баяраў путных у Вялікім княстве Літоўскім яшчэ XIV-XV стагоддзяў і найпэўней з часоў вялікіх князёў Вітаўта і Казіміра Ягелончыка, калі Падляшша ўступіла ў працяглы перыяд свайго гаспадарчага і культурнага росквіту. Гэта тады праз нашыя землі была пракладзена даволі густая сетка добраўпарадкаваных гасцінцаў-шляхоў, якія злучалі сталіцу старабеларускай дзяржавы Вільню з крэпасцямі на граніцы з Мазоўшам: Візна, Тыкоцін, Сураж, Бранск, Драгічын, Мельнік і інш. Якраз для ўтрымання ў належным стане, догляду і аховы ад грабежнікаў паабапал гэтых шляхоў вялікія князі пасялялі сваіх падданых сялян, пераважна з ваколіц Горадні і Наваградка, надзялялі іх некалькімі валокамі зямлі і ўзводзілі ў ранг княжацкіх служылых людзей, г.зн. баяраў. Баярскі род Градалёў даглядаў мабыць частку гасцінца, які злучаў Бельск з Надбужжам і Паўднёвым Падляшшам. Такое меркаванне пацвярджаецца і тым, што ў другой палове XVI стагоддзя Градалі належаць да гаспадарскага (г.зн. вялікакняскага) бельскага фальварка Галавеск не як прыгонныя, але як чыншавыя сяляне, г. зн. за спадчыннае ўладанне зямлёй не абраблялі паншчыны, але плацілі грашовы падатак — чынш. А гэта ў тыя часы было вялікім прывілеем для сялян, бо стварала ім магчымасць свабоднай працы на сваёй зямлі, дадатковых заробкаў па-за сваёй гаспадаркай, а нават выхаду з сяла ў горад. Апрача таго, як відаць з дакументаў, Градалі яшчэ ў 1576 годзе карысталіся асаблівай прыхільнасцю каралеўскіх чыноўнікаў, калі тыя надзяляюць градалян дадатковымі моргамі зямлі, змяншаюць чынш за тое, што „ім лугі выпаслі, калі паны ехалі пры Каралю Яго Вялікасці“ датуль „пакуль ім узнагарода належная не станецца“, а таксама запісваюць у „Люстрацыі“ іхнія скаргі на князя слуцкага Юрыя Юр'евіча Алелькавіча (1559-86) — уладальніка Орлі, ды на Івана Есмана — уласніка вёскі Ляўкі, якія „грунты ім адымаюць“.

Тая ж частка сённяшніх Градалёў, якая завецца Шпітале, мае значна больш складаную гісторыю. Як вядома, вялікая

(Працяг са стар. 5)

# ГРАДАЛІ

Бурыла, Пётр Брэнька, Аляксандр Залеўскі, Аляксандр Кадлубоўскі, Тамаш Якубюк, Павел Яканюк і інш.

Пасляваенны час — гэта перш за ўсё штурм градалёўскай моладдзю вышэйшых школ. Васіль Андраюк, Мікалай Астапчук, Сцяпан Бурыла, Ніна Сапёлка сталі настаўнікамі; Міхал Бурыла — інжынерам, Ірына Бурыла — аграномам-агароднікам; Сяргей і Аляксандр Лукашукі — не толькі выдатнымі педагогамі, але і ахвярнымі дзеячамі на ніве беларускай культуры. Сяргей вядзе славутыя бельскія „Васілёчкі“, Аляксандр — шматабяцаючы Гайнаўскі беларускі хор.

На універсітэтах цяпер вучацца Аліна Барташук і Дар'я Ігнацюк.

Наогул у Градалях высока цэніцца адукацыя, культура. Тут добрая бібліятэка, святліца.

Не забыты і штодзённыя запатрабаванні людзей — спраўна працуюць крама і малачарня.

На пачатку бягучага года ў Градалях было 299 чалавек насельніцтва, у тым 154 мужчыны, дзяцей і моладзі ва ўзросце да 18 год — 58 чалавек, у тым 35 хлопцаў, дзяцей да 3 гол жыцця — 4, з іх аж 3 хлопчыкі. Значыць, тут выразна дамінуюць мужчыны! Жывуць і працуюць яны на 91 гаспадарцы, якія абрабляюць 619 га ўжыткаў, у тым 424 га ворыва, 84 га сенажацяў, 104 га пашы, 7 га садоў і маюць 70 га лесу. У 1984 г. сеялі і садзілі: пшаніцы зімкі і яркі 18 га, жыта — 124 га, аўса — 69 га, мяшанкі аўса з ячменем — 24 га, ячменю — 3 га, грэчкі і проса — 2 га, кукурузы — 3 га, гароху — 1 га, лёну і канапель — 13 га, канюшыны і іншых пашавых — 83 га, садзілі 53 га бульбы і пад трускалкамі было 15 га! Гадавалі: 438 штук быдла, у тым 204 каровы, 369 шт. свінней, у тым 29 свінаматак, авечак — 141 штук, коней — 82 штукі і каля 1500 штук птушкі.

Самыя прадукцыйныя гаспадаркі ў Градалях маюць: Уладзімір Цэтра (13 га, прадаў дзяржаве ў 1984 г. прадукцыі на 1 мільён 228 тысяч злотых), Уладзімір Ткачук (22 га, продаж — 1 міл. 570 тыс. зл.), Сцяпан Радзіванюк (19 га, продаж — 1 міл. 132 тыс. зл.), Рыгор Анапюк (18 га, продаж — 913 тыс. зл.) і інш.

Словам, Градалі — гэта працавітае, згоднае і ладнае сяло. Але мае і яно свае праблемы. Найбольш балюча дакучае ім Раён публічных дарог у Бельску, які праз гэтае сяло возіць жвір са жвіроўні у Дубяжыне і Дашах. Шафёры не змяншаюць хуткасці, едучы па вясковай вуліцы, пад коламі гіне птаства, малыя жывёлы, страх чалавеку выйсці на вуліцу. Цяжка гружаныя машыны разбілі брук, паўстаюць калдобіны, а прадпрыемства і не думае, каб заліць вуліцу асфальтам, пакуль яшчэ не позна. Сяляне ахвочыя дапамагчы грамадскімі пачынамі. Што на тое Бельскі раён публічных дарог?

**М. Гайдук**



Нашы вёскі. Парпава.

Фота Я. Целушэцкага.

ПА РОДНЫХ КУТКАХ

# У Крывую

Едзем праз Галады ў Крывую. У Галадах ля адной хаты, каля плоціка, на лаўцы, палажыўшы падушку пад галаву, спіць пенсіянер, толькі вусы стырчаць. За Галадамі, на мосце на Арлянцы, затрымліваемся і глядзім у чыстую ваду, дзе плываюць малыя рыбкі, а на дне вадзяныя слімакі, якіх не знішчыла яшчэ чалавечая рука.

Каля Шчытоў прыпынак ПКС. Вокны і дзверы павырываныя з рамамі, стаіць толькі адзін шкілет. Адна жанчына, якая чакала на аўтобус, сказала: „Укралі вокны і дзверы, бо многа людзей будуецца і патрабуюць матэрыялаў“. Дарогай, якую калісьці будаваў інж. Барыслаў Рудкоўскін, уязджаем у Крывую. Каля сяла, з правага боку шашы, стаіць крыж з 1883 г., мураваны з каменя, а каля яго драўляны крыж. Паехалі мы пабачыць і камень з 1746 г. (гл. „Ніва“ ад 16.09.1984 г., „Запіскі натураліста“: „На кургане“). Яшчэ пад'ехалі на ўзгорак, дзе калісьці стаяла царква і, як гаворыць легенда, увайшла ў зямлю.

Вёска Крывая распалажана ў паўтара кіламетрах ад шашы Бельск — Белавежа. У вёсцы 139 гаспадароў, у тым 85 працуе ў спулдзельні прадукцыйнай, старшынёй якой Юрка Безюк. Спулдзельня ставіць на жывёлагадоўлю, гадуюць яны 700 авечак і 200 кароў. Да палавіны вёскі ёсць тратуары, а праз другую частку вёскі па баках ляжаць пліткі на тратуар. Начальнік гміны пагневаўся на крыўлян, што не хочуць рабіць у грамадскім пачыне. Але людзі хочуць рабіць, толькі дамагаюцца каб гміна паставіла спецыяліста, які будзе кіраваць і наглядаць за працай.

Ад 1972 года ў кожнай хаце ў Крывой вадаправод.

Партыя налічвае 37 чалавек, сакратаром Сцяпан Пракапюк. Актыўны таксама ў вёсцы сельскагаспадарчы гурток.

У вёсцы жыве цікавы народны ўмелец — маляр Анатоль Краўчук. Сцены яго хаты абвешаны партрэтамі, краявідамі, малюнкамі з натуры, выкананымі фарбамі на палатне, а таксама графікай. У Крывой ёсць і іншыя здольныя людзі, напрыклад, Івона Іванюк і Уладзіслаў Сахарчук вельмі добра спяваюць. Яны ў Орлі на аглядзе „Беларуская песня“ занялі ў дуэце I месца. Хоць ёсць аматары, але няма ў вёсцы калектыву, бо няма каму пацікавіцца гэтай вёскай. Вядомая, і прыгожая таксама, 8-класная школа, у якой дырэктарам Кузьма Дудаль, а роднай мове вучыць Вольга Стрэльчук. У Крывую прыязджалі на выступленне слаўныя „Васілёчкі“, а раз у тыдзень прыязджае кіно.

У гэтай ваколіцы многа легендаў і паданняў, але аб гэтым у іншым месцы.

Ужо дзень хіліўся да захаду, і мы жвіроўкай накіраваліся ў Відава. На кароткі адпачынак затрымаліся каля Ужыкаў, на мосце, дзе калісьці быў водны млын. У „Чортавай яме“ ціха — ніхто не ловіць рыбу. Мінаем Агароднікі. У відаўскім лесе дарогу нам перабягае казуля. Вось і канец лесу, і відаць ужо Відава. Здалёк бачым тоўстыя дубы — помнікі прыроды ў „Грабіне“. А вось і мая хата. Глядзім лічыльнікі пры веласіпедах: праехалі 30 км па нашай цудоўнай зямлі.

**Андрэй Гаўрылюк**




# ФРАНТАВЫ ДЗЁННІК

Больш тыдня наш полк валачэцца ў трэцім эшалоне па мокрым асфальце. З шэрага нізкага неба ўвесь час лепіць снег з дажджом — „польска зіма“, як ахрысцілі хлопцы. Зрэдку наперадзе чуваць глухія стрэлы першага эшалона. Злева і справа ад шашы — сумныя і аднастайныя будынкі з чырвонай цэглы, пакрытыя маркоўнага колеру дахоўкай. Прасмярдзелыя, каторы дзень не прасушаныя шынялі. Прамоклы на рагожу брызент з жывымі азерцамі вады на гарматах. Вазы з мінамётамі. Усё заляпанае граззю. Пясок скрыпіць на восях фурманак, адчуваецца за шыяй, скрыпіць на зубах...

Гармата мая суне першай. Наперадзе перастаўляе крывыя ногі, у туга зацiснутым рэмнем кажусе Разбек — маўклівы татарын. Ён — камандзір маёй гарматы, у батарэі з першых дзён. За Разбекам абыякава шлэпаюць тупымі падковамі па мокрым асфальце дзве пары шыракагрудых біцюгоў. На пярэдняй — пажылы, вусаты дзядзька-беларус, па прозвішчы — Гайдук. Калі дзядзька крочыць па зямлі, здаецца — апрануты ў жаночую сукенку, аж гэтак яго шынель кароткі (хлопцы смяюцца, што шынель у дзядзькі Гайдука — якраз, задоўгі ён сам!).

Другая пара коней ідзе сама. Ездавы чуваш — худзенькі салдацік з ямачкамі воспы на твары — тупае са мной і дэманструе фокус: ідучы з левага боку, ухітраецца падскочыць ды левай нагой здзяліць мяне ў плечы так, што ледзь не валюся. Чуваш — другі ветэран у маім разліку.

Ззаду нас — маладзенькі і пуцалаваты, зусім яшчэ хлопчык, нават з пульхнымі ружовымі вуснамі і шчочкамі, — Хілько. З ім такі ж амаль юны, з доўгай і несфарміраванай шыяй, толькі на цэлую галаву вышэйшы за сябра, Ісаеў. Гэты стараецца паўтарыць прыём чуваша, але як не скача, фокус у яго не выходзіць. Нарэшце, Ісаеў выцягваецца на ўсю даўжыню на мокрым, поўным конскага памёту, асфальце, ад чаго ўсміхнуўся нават мой заражаючы Дубаў: той увесь час з ваўкаватай панылаcцю трымаўся ззаду.

Высокі артылерыст, ратуючыся ад ног наступнай запрэжкі, паспеў толькі ўзняцца на ногі, як нас агарнула адчуванне: нешта здарылася. Я паўзіраўся наперад.

Галава калоны якраз уваходзіла ў сасновы лес. Справа і злева — якіясьці плакаты.

„Германія!!!“ — электрычнай іскрай пранеслася раптам па калоне.

Вось табе і тое самае логава.

Адразу некуды падзявалася стомленасць. Перасталі горбіцца, ажывіліся пехацінцы і артыле-

# Беларускі фальклор

Вынікі і эфектыўнасць сватоў залежалі ў значнай ступені ад красамоўнасці маршалка, ад яго ўменняў рэкламаваць свайго падапечнага. Яго ацэнкі духоўных і матэрыяльных каштоўнасцей маладога вельмі часта мелі гратэскавы характар. Для прыкладу, некаторыя з маршалкаў у красамоўным запале параўноўвалі хату хлопца да царскага палацу. Гаворачы аб ураджаях, якія збіралі з яго поля, маршалак мог сказаць, што нажынаюць: „сто коп жыта, сто коп пшаніцы, сто коп аўса“. Каровы ў хлявах падапечнага былі „як зубры, а коні, як туры“. Такая метафорыка ўжывалася найчасцей у раёне Белавежскай пушчы. Спасыланне маршалка, між іншым, на тураў, сведчыць аб тым, што такія фармуліроўкі былі вельмі старыя, бо вядома, што туры выгінулі на нашых землях сотні гадоў назад. Нягледзячы на гэта, міф аб іх магутнасці і сіле застаўся ў народнай стылістыцы.

Бацькі дзяўчыны стараліся таксама выставіць на першы план розныя цноты сваёй дачкі. Наогул аднак не падкрэслівалі свайго багацця. Вынікала гэта з таго, што ў такой сітуацыі лепш было нават прыбядняцца. Справа ў тым, што калі б сказалі яны адкрыта аб сваёй значнай маёмасці, дык гэта разбудзіла б апетыты сватоў у справе пасагу. У такой сітуацыі бацькі дзяўчыны клалі націск на такія духоўныя вартасці дачкі як: працавітасць, паслухмянасць, дабрата, здольнасць, адданне бацькам, а таксама яе прыгажосць. Маглі таксама намякнуць, што іх дачка адна з першых у вёсцы і што напэўна знойдуцца ахвотныя ўзяць яе замуж. Здаралася, што гаварылі, колькі ўжо было ў яе сватоў і што напэўна будуць яшчэ і другія.

Адной з галоўных мэт сватоў было тое, каб даведацца, на які вялікі пасаг могуць яны разлічваць. З другога, аднак, боку, з увагі на ўступны характар перамоваў, нельга было катэгарычна ставіць гэтую справу. Калі б так сталася, гэта сведчыла б аб тым, што хлапец не зацікаўлены дзяўчынай, а толькі яе багаццем. У сувязі з гэтым, справа пасагу не ставілася катэгарычна, а толькі даследваўся ў гэтай галіне грунт. І ўсё ж такі маршалак ставіў ад імя маладога акрэсленыя патрабаванні. Найчасцей былі гэта патрабаванні вышэйшыя, чым магчымасці бацькоў. На гэта, аднак, ні адзін, ні другі бок не звяртаў большай увагі, бо было вядома, што ў ходзе далейшых сустрэч, перамоваў і пагадненняў, адзін і другі бок уступяць і дойдуць да пажаданага кампрамісу.

У многіх вёсках здараліся даволі дзівосныя практыкі. Калі абодва бакі даходзілі да вываду, што будуць прадаўжаць вясельную справу, тады маршалак праводзіў спецыфічныя праверкі і экзамены. Для прыкладу, кідаў на падлогу іголку і патрабаваў, каб сватаная дзяўчына яе знайшла. Калі гэта ёй удавалася, загадваў ёй уцягнуць у іголку нітку. Часам прасіў, каб спрала некалькі метраў ніткі і пасля прыглядаўся ці роўна і тонка спрадзена. Беручы пад увагу тое, што калісьці хаты асвятляліся капцілкамі або лучынаю, былі гэта заданні не лёгкія і не простыя.

Калі ўсе гэтыя праверкі давалі добры вынік, сваты пераконваліся, што сватаная дзяўчына — адпаведная кандыдатка на жонку.

Цікава, што існавала сцісла акрэсленая чарговасць герархізацыі чалавечых вартасцей, якія браліся пад увагу сватамі. І так, найчасцей у кандыдаткі на жонку найвышэй ставілася яе багацце, далей ішла працавітасць, лагоднасць характару. На адным з апошніх месц ставілася прыгажосць, бо ўважалася, што гэта ўласцівасць найменш трывалая.

**А. Баршчэўскі**



„Беларуская песня-85“. Спявае жаночы квартэт з Меляшкоў.
Фота М. Гайдука.

рысты. Выцягнулі шыі ездавыя мінамётнай батарэі. Ля маёй гарматы вестку кожны прыняў па-свойму.

Разбек працягваў гэтак жа ўпэўнена крочыць, толькі фігура яго стала больш падцягнутай.

Дзядзька Гайдук, абхапіўшы нажыскамі запараныя бакі біцюга, навастрыў вусы, увабраў галаву ў плечы — быццам падрыхтаваўся скакаць.

Ажывіўся нават панылы Дубаў.

Заблішчаў жывымі вочкамі круглы тварык Хілько: яго бацькоў у Гомелі немцы жыўём спалілі ў школе.

Яшчэ больш выцягнуў шыю Ісаеў...

Усе ажывіліся ад прыўзнятасці. Настрой людзей перадаўся коням — біцюгі бадзёра замахалі галовамі ў такт кроку. Здавалася, уся калона цвярдзіла адно:

„Дзе ж яна, гэтая самая, паганая?!“

Але зараз жа агарнула ўсіх расчараванне. Уцягнуўшыся ў лес, полк кіламетр за кіламетрам ішоў праз манатонны масіў акуратных сосен і елак.

„Уй, каб не лес! Уй, калі б не лес!“ — бегаючы ад гарматы да коней і назад, бурчаў Хілько.

„А што, „каб не лес“?“ — пытаюся.

„Так я ж бы іх, гадаў, я-а-ж бы і-іх!!“

„Ну, ну?“

„Ат, што ты разуме-еш?!“ — расчаравана кідае хлопец у размоклым кажусе.

Столькі ў яго было злосці. Шчасце тваё, Германія, што на сваім шляху выставіла зялёны заслон, — не здабраваць бы табе ад нашага Хілько.

15.II.45 г. Ноччу.

Нямецкі гарадок Флатаў. Чуваць, як недзе ідзе перастрэлка. Страляюць за горадам. У ахутаных цемрай будынках — мёртвая цішыня і спакой. На ўскраіне пажар і цемра ў цяні паміж дамамі здаецца яшчэ гусцейшай. Да беззупыннага дажджу са снегам за пару тыдняў прызвычаіліся, перастаем заўважаць.

Адчэплены ад перадкоў і выстраены ўздоўж тратуара нашыя „палкавушкі“. На другім баку вуліцы расцягнуты ў радочак „саракапяткі“. Артылерысты адпачываюць у бліжэйшым доме. Кухар на падворку, асветлены іскрамі, дуе ў печ паходнай кухні, кляне ды бэсціць мокрыя дровы. Ля гарматнага парка на пасту — Хілько. Праз дваццаць мінут мне яго мяняць, няма сэнсу класціся спаць, але ж чым заняцца?

Калі добра ўгледзецца ў вулічную цемру, можна пазнаць Ісаева. Аднекуль вывалак веласіпед і паказвае вартавому. Хілько шчупае веласіпед, хваліць:

„Хоро-ошая машына! — хоць, напэўна, яму нічога не відаць. Са шкадаваннем дабаўляе: — Цёмна, халера!“

„Цё-омна! — згаджаецца Ісаеў. — От, каб відна, пакаталіся б!“

Праз некалькі хвілін віла багатага гітлераўца выстрэльвае ў неба вулканам агню і дыму,

(Працяг на стар. 8)

# Вер-не-вер

Астроне, ты ўгадаў мае сны вельмі дакладна ў нумары 30 ад 28 ліпеня. Я пісала, што мне сніліся ўсё цэрквы ды касцёлы, а ты сказаў, што мяне ў сувязі з гэтым чакае вялікі смутак. Ты казаў, што смутак гэты будзе выкліканы нейкай хваробай, бо ў касцёле я бачыла балота, і што чакае мяне нядобрае падарожжа, бо, вышаўшы з царквы, я забрудзіла сабе ў туалеце чаравік. Усё амаль, што ты гаварыў, спраўдзілася.

Даслоўна праз пару дзён пасля таго, як я выслала табе пісьмо, мне наказалі, што вельмі цяжка захварэў мой бацька. Ну, і, вядома, давялося ехаць у не вельмі прыемнае падарожжа. А пасля, ужо ў вельмі хворага бацькі, мне прысніўся другі сон. Вось быццам бы бацька мой (які жыве ў горадзе) вышаў на балкон і нешта там робіць. Раптам бачу: ён нахіліўся і глянуў уніз. І вось быццам ён ужо вісіць над прорвай нейкай. Мы з мачахай у той час падбеглі да яго, схапілі і неяк уцягнулі ў хату. А пасля гэтага я расплакалася. Слёзы ліліся з маіх вачэй проста ручаямі, залівалі ўвесь твар. Мо гэты мой сон, Астроне, хоць крыху лепшы ад папярэдніх? Бо тыя дык прынеслі мне адно смутак і перажыванні.

**Каця**

Каця! Мо тыя першыя сны твае і былі дрэнныя, але, папершае, ты ж сама іх высніла, а я толькі інтэрпрэтаваў, па-другое ж — выяснілася так, як было ў сапраўднасці. Няўжо б ты лепш хацела, каб я напісаў, што чакае цябе вяселле, калі ў тваёй сям'і такое няшчасце — цяжкая хвароба бацькі?!

На шчасце, твой сённяшні сон на многа лепшы, хаця і гаворыць аб небяспецы, усё ж пагражаючай твайму бацьку (ён жа вісеў над прорвай). Але ўсё ж вы з мачахай яго выратавалі, уцягваючы неяк у хату. Пры гэтым не мае ў даным выпадку значэння той факт, што бацьку сніць — гэта клопат, а мачаху — смутак і непрыемнасць. Проста яны тут былі рэальнымі фігурамі, дзеючымі асобамі, і сон датычыць фактычна іх.

Думаю, што бацька твой паправіцца. Прынамсі вядома, што ты будзеш яшчэ радавацца. За гэта гавораць буйныя слёзы, заліваючыя твой твар.

**Астрон**

# Куток практычных ведаў

■ Пакінутую гарачым прасам жоўтую пляму намажце цыбуляй, памыйце ў халоднай вадзе, пасыпце соллю і пакладзіце на некалькі гадзін на сонцы.

■ Забруджаныя шкляныя рэчы, шыбы і люстэркі перад тым, як мыць вадою, патрыце разрэзанай цыбуляй.

■ Плямы тлушчу з паперы можна выдаліць так. Пакладзіце на пляму прамакальную паперу, а зверху патрыце ваткай, змочанай у бензіне. Трыце, пакуль пляма не згіне.

■ Пасыпце цыбулю, калі вы яе смажыце, цукровай пудрай — яна будзе залацістай і смачнай.

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

А. Паскробышаў

## ЗЛАМАНАЯ БЯРЭЗІНКА

Што за жалейка ў дзядулі! Як хораша яна спявае! А вось у Міколкі пакуль нічога не атрымліваецца. Ля-ля-ля — і ўсё... А чаму не так, як у дзядулі, хлопчык не ведае. І хавае ён дудачку, мокрую ад поту, а можа, і ад слёз, што цякуць па шчаках ад крыўды на самога сябе, пад кашулю. Няхай жалейка паляжыць, адпачне крыху. А потым ён зноў дастане яе, і яна заспявае пра ўсё, што мроіцца ў галаве. Вось тады ўсе вясковыя хлопцы пазайздросцяць яму! А Хвядоска дык той напэўна захоча, каб Міколка яго таксама навучыў дудзець. Так, як яго цяпер самога вучыць дзядуля.

Толькі чаму гэта дзядуля доўга не паказваецца з хаты? Мусіць, прыдрамнуў пасля снядання. Бо кепска адпачываў ён сённяшняй ноччу. Цяжка стагнаў. Відаць, зноў старыя раны азваліся.

...Міколка шкадуе дзеда. Бывае, прытуліцца пяшчотна да яго белай ад сівізны шчакі, гладзіць мяккую доўгую бараду. Калі паціху падзьмухаць на валасы, адразу ўбачыш чырвоны шрам, што прарэзаў ледзь не ўсю шчаку.

„Можа, таму і запусціў дзед бараду, каб гэтага шрама не было бачна?" — думаў хлопчык.

— Адкуль у цябе такі шрам, дзядуля? — аднаго разу не вытрымаў, спытаў унук.

— Асколкам зачапіла ў партызанах, — бы ў нейкім роздуме растлумачыў стары. — Нібы нажом па шчацэ: чырк!

— Няўжо такі востры асколак быў? — распытвае Міколка

— Як лязо... Ну дык слухай. Бег я тады па лесе, а сам адчуваю, што паранены ўжо. І няма калі нават кроў з твару абцерці. Чырвоны ўвесь ад той крыві. А фрыц ужо зусім блізка. Аўтамат жа мой чамусьці сапсаваўся, не страляе. Фашыст таго не ведае, хаваецца за кусты. „Стой!" — крычу. Вораг не вытрымаў, азірнуўся. А вочы ў яго — па яблыку — ад страху. І раптам лясь — з пісталету мне ў нагу пацэліў. Апякло агнём нагу, а ўсё роўна бягу. „Хэндэ хох! — па-іхняму гэта: „Рукі ўгору!" — крычу. І здаўся б той афіцэр, бо куля ў ягоным пісталеце апошняя была. „Трымайце яго, хлопцы! — клічу сваіх. — Языка зловім!" Ды тут чарга збоку па фрыцу секанула. Гляджу: наш Лісіца аўтаматам водзіць. Ты ж, унучак, ведаеш яго: за вёскай ён жыве. Нервы ў Лісіцы тады не вытрымалі, ці што. Доўга на яго мы ўсе злавалі, бо вярнуліся ў штаб без языка.

Міколка яшчэ раз узнаўляе ў памяці ўсе драбніцы з апавядання дзядулі і з нецярплівасцю чакае, калі ж нарэшце пакажацца на ганку ён сам. Звечара яны дамовіліся пайсці ў хмызняк і наламаць для Зоркі венікаў. Тых венікаў ужо шмат падвешана ў хлеўчыку пад столлю, а дзед усё ходзіць па новыя, каб казе было чым паласавацца ў зімовую сцюжу.

Хлопчык на момант заплюшчыў вочы і ўявіў сабе, як дзядуля выходзіць з хаты, намацвае ў цёмных сенцах сукаваты кій. У апошні час стары заўсёды бярэ яго з сабою. Без кія відаць не дабярэцца нават у той бярэзнік, які пачынаецца за размаляваным домам Лісіцы. Пабольвае ў дзядулі старая партызанская рана...

І тут Міколку нібы скаланула: таго ж кія за дзвярыма няма! Выйдзе дзядуля, будзе шукаць — і нічога не знойдзе. Яны з Хвядоскам зламалі яго ўчора Ну, не наўмысна, а так, выпадкова. І трэба ж было Міколку апоркаць тады ў сенцах таго дзядулевага памочніка, прыхапіць з сабою на двор. Ды Хвядоска якраз гойсаў ля веснічак. Заўважыў Міколкаву знаходку і пачаў разглядаць.

— Нішто сабе кій! Давай пакатаемся! — лісліва прапанаваў ускудлачаны Хвядоска.

— Давай, — махнуў рукою Міколка.

Хлопчыкі хуценька ўселіся на драўлянага коніка, галопам памчаліся па сцежцы. Потым павярнулі на лужок, да Зоркі. Ды тут Хвядоска знячэўку зачапіўся нагою за ланцуг, якім была каза прывязана да грушыдзічкі. Стары кій глуха трэснуў, і абодва ездакі балюча грымнуліся на зямлю.

— Зламаўся, — паківаў галавою Хвядоска, спрабуючы скласці абедзве палавінкі кія.

— Што ж я цяпер скажу дзядулю?

— А нічога. Другі знайдзі. Вунь колькі іх у бярэзніку можна выразаць...

Выразаць! Успомніўшы тое ўчарашняе здарэнне, Міколка міжволі ўхапіўся рукамі за плот: што будзе? Можа, сумлен-

(Праця́г на стар. 10)



Дзяўчаткі з Ласінкі — у квінтэце лаўрэаткі конкурсу беларускай песні для школьнікаў.

Фота Я. Чэрнякевіч

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Жыў-быў козлік, які не любіў мыцца.

— Ну паглядзі, на каго ты падобны! — казала яму мама. — І капыткі, і хвосцік, і нават бародку вымазаў. Ці ж гэта мой козлік? Ідзі памыйся!

Але козлік не ідзе, адварочваецца.

— Ме-е! Не-е! Не пайду мыцца! Не хачу!

А самому цікава:

— На каго я падобны? Скажы?

— Не скажу! Ты не ідзеш мыцца, дык я не скажу!

Пакрыўдзіўся козлік:

— Дык і не кажы! Запытаюся ў каго-небудзь!

Задраў хвосцік і пабег.

Бяжыць, а насустрач яму індык, вельмі ж ганарыстая хатняя птушка.

— Паглядзі на мяне, калі ласка! — кажа яму ветліва козлік. — На каго я падобны? Можа, на цябе?

— На мяне? — здзівіўся індык. — Ні крылаў, ні сапраўднага хваста!

— А бародка?

— Ці ж гэта бародка? — фыркнуў індык і пачаў надувацца. — Гэта ў цябе бруд прысох. Ты падобны на козліка бруднага, вось на каго ты падобны! Ідзі памыйся!

## КАЗКА ПРА КОЗЛІКА

— Яшчэ чаго! — пакрыўдзіўся козлік, брыкнуў і пабег далей.

Бяжыць ён, глядзіць: ля плота ў лужыне свіння дрэмле.

— Слухай! — звярнуўся да яе козлік. — Не скажаш ты мне, на каго я падобны? Можа, на цябе?

Свіння адчыніла адно вока, паглядзела на яго і сказала:

— А што, можа быць! Ты таксама, бачу, любіш у гразі павалятца. Прымасціся побач са мной! Паляжы!

„Валяцца ў лужыне? Ні за што!" — падумаў козлік і бачком-бачком падаўся ад свінні.

Выскачыў ён на вуліцу і сутыкнуўся з цяляткам, якое было прывязана да калка.

— Прабач, я не хацеў! — застыдаўся козлік і, адбегшы на ўсялякі выпадак убок, спытаў: — Можа, ты разгадаеш, на каго я падобны?

— Вядома, на каго. На сваю маму! Толькі ты, мабыць, зусім не мыешся!

— Вядома, вядома! — затрашчала сарока Варка, якая сядзела на плоце і падслухоўвала чужыя размовы. — Яму ўсе гавораць, а ён не слухаецца. Вось пакліччу зараз варону Маню. Яна забярэ цябе, мурзу.

І сарока замахала крыламі, збіраючыся ляцець па Маню.

Спалохаўся козлік і пабег назад.

— Ме-е! Не хачу да вароны! Хачу да мамы! Лепш буду мыцца!

В. Гураў

## ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

### ШТО БЫЛО, КАЛІ НІЧОГА НЕ БЫЛО

Чатыры з паловай мільярды гадоў назад не было ні Зямлі, ні Месяца, ні Сонца, ні ўсёй нашай Сонечнай сістэмы.

Але „пустым“ космас не быў ніколі. Па-першае, у 1 кубічным сантыметры космасу ўтрымоўваецца па 1-2 атамы газу. Галоўным чынам, гэта вадарод і гелій. Наглядаць гэтыя атамы немагчыма, але атамы вадарода выдзяляюць радыёхвалі. А вельмі чулыя прыборы на зямлі „злавілі“ іх.

Па-другое, у міжнароднай прасторы ёсць малая колькасць вельмі дробнага пылу. Памер адной пылінкі — адна дзесяцітысячная частка міліметра. Касмічны пыл паходзіць часткова ад астыўшых зор-гігантаў.

Міжзорныя газ і пыл пад уздзеяннем прыцягвання, электрамагнітных і іншых сіл могуць збірацца разам. Так утвараюцца міжзорныя воблакі і туманнасці. У найбольш густых воблаках, дзе колькасць атамаў у адным сантыметры дасягае мільёна, і здараецца нараджэнне зоркі. А адно з такіх воблакаў стала падставовым матэрыялам для ўтварэння нашай Сонечнай сістэмы.

Як жа гэта было?

Пад уплывам ўласнага прыцяжэння малекулярнае воблака сціскалася. Вярчэнне яго згодна з законамі механікі прыспешвалася. І воблака распалася на мноства дробных кавалкаў. Кавалкі воблака далей круціліся і згушчаліся. Гэта прывяло да ўтварэння ў цэнтры гарачага ядра. Вакол ядра пачаў збірацца пылавы і газавы дыск. Ядро, усё мацней сціскаючыся, ператварылася ў Сонца. А дыск вырас да памераў сённяшняй планетнай сістэмы.

У самым дыску таксама пачалі ўтварацца ад вярчэння кавалкі гусцейшай матэрыі, якія ў далейшым ператварыліся ў цвёрдыя целы.

У зоне будучай зямлі ўтварылася каля мільярда цвёрдых цел. У выніку іх аб'яднання пазней засталося толькі некалькі соцень буйных кавалкаў. І нарэшце самы вялікі з іх, прыцягнуўшы і паглынуўшы ўсе іншыя кавалкі, ператварыўся ў нашу блакітную планету.

Працэс фармавання Зямлі працягваўся 100 мільёнаў гадоў. Дакладна таксама з цвёрдых цел утварыліся і іншыя планеты. Але паміж Марсам і Юпітэрам гэты працэс не мог закончыцца ўтварэннем яшчэ адной планеты. У гэтай зоне сонечнай сістэмы і сёння раскідана больш двух тысяч малых планет — астэроідаў. Перашкодзіў тут вялікай масы Юпітэр, які цяжэйшы за Зямлю ў 318 разоў. Пад уплывам такой масы павялічылася хуткасць вярчэння іншых цел, якія ўжо не маглі злучацца, а распадаліся.

Паслядоўнасць розных этапаў развіцця і нараджэння планет дапамог прадставіць аналіз прылццеўшых з гэтай зоны на Зямлю метэарытаў.

**Паводле В. Сафронава, доктара фізіка-матэматычных навук**

---

Мікола Чарняўскі

### ЛУГАВАЯ КАЗКА

*Пытаўся званочак:*
*— Скажы мне, вятрыска,*
*Чаму ты няўседа такі?*
*Лятаеш высока і нізка —*
*Ля хмар і над поймай ракі...*
*— У хованкі я не гуляю*
*Ні ў небе, ні тут, на зямлі:*
*Я цёмныя хмаркі ганяю,*
*Каб дожджыкі ўсюды лілі...*

*Пытаўся званочак:*
*— Скажы мне, вятрыска,*
*Чаму ты свавольнік такі?*
*Лятаеш далёка і блізка,*
*Дзе кружыш,*
*А дзе — напрасткі...*
*— У хованкі я не гуляю.*
*Хоць лётаю шмат — не зважай:*
*Я нібы наўсцяж аглядаю,*
*Турбуюся: як ураджай?*
*На лузе, дзе травы па пояс.*
*З пракосаў збіраю расу,*
*Чмяліную песню з сабою*
*Ад краскі да краскі нясу...*

*— Чаму ты, каго ні спытаеш,*
*Здаешся загадкаю ўсім?*
*То цёплы,*
*То золкі бываеш,*
*То моцны,*
*То слабы зусім?*

*— Такі ўжо характар*
*мой, кветце,*
*Лятун я,*
*Шчырун,*
*Жартаўнік,*
*А што адбылося б на свеце,*
*Каб раптам я нкуды знік?..*

*Пытаўся званочак:*
*— На гэты лужочак*
*Чаму заглядаеш часцей?*
*Ці сонца тут больш,*
*Ці прывабней куточак,*
*Ці травы і кветкі гусцей?*

*— Сюды я часцей заглядаю,*
*Бо шчырага сябра займеў.*
*Я тут, па-над лугам, лятаю,*
*Каб ты не тужыў,*
*А — звінеў!*

### ВЯРБІНКА

*— Чаго стаіш, вярбінка,*
*Над самаю ракою?*
*— Бо кожнаю галінкай*
*Люблю шаптацца з ёю.*

*— Аб чым жа ты гаворыш*
*З аерам ды вадою?*
*— Пра месячык і зоры,*
*Пра сонца залатое.*

*Расказваюць мне хвалі*
*Над беражком крутым*
*Пра лугавыя далі*
*За борам —*
*Вунь за тым!*

*Туды не загляну я,*
*Туды не забягу,*
*Я ж там красу зямную*
*Пабачыць не магу.*

*Хоць сумна ў дождж і спёку,*
*Ды я ўсё шапачу:*
*Што робіцца навокал —*
*Даведацца хачу.*

*Сяброўствам ганаруся*
*З рачулкаю сваёю.*
*Я не ў ваду гляджуся*
*На свет*
*Гляджу я з ёю!*

(Працяг са стар. 9)

### ЗЛАМАНАЯ БЯРЭЗІНКА

на прызнацца дзядулю ва ўсім? Не, лепш за ўсё выламаць у лесе новы кій. Пойдуць жа яны ў лес па венікі для Зоркі. І тут Міколкаў позірк спыніўся на віноўніцы ўчарашняй прыгоды, якая спакойна, не падзяляючы ягоных трывог, пасвілася пад той жа дзічкай.

„Гэта ўсё праз цябе!“ — падумаў Міколка. Але злосці на казу не было. Ды і пры чым тут Зорка? Вунь як дабрадушна корміць казлянё. Нават тут, у двары, чулася, з якім апетытам малое смактала матчына малако. Зорка ж толькі стрыгла вушамі... Не, каза тут не вінавата. Усяму прычынай зайздрослівы Хвядоска. Ды і сам ён, Міколка, не лепшы: на ўгаворы паддаўся. Стой тут і чакай, пакуль дзед выйдзе і перцу задасць...

Пакуль стары сышоў з ганка, хлопчык быў ужо далёка. Потым крыху суцішыўся: няхай дзядуля дагоніць яго. Удвух куды лепш, ды і бярэзнік побач ужо.

І раптам Міколка пачуў, як глуха трэснуў у лесе нейкі сук. Нібыта кій пад імі ўчора. І зязюля адразу перастала кукаваць. Ціха-ціха стала навокал. Міколка азірнуўся на дзеда, але той чамусьці хуценька падаўся ў той бок, адкуль толькі што данёсся трэск.

Прыгінаючыся пад галінкамі, што нізка звісалі да зямлі, хлопчык пашыбаваў за старым. Выбег на паляну і нечакана ўбачыў паваленую бярозку. Белая, яшчэ зусім маладзенькая, яна ляжала сцішана, нібы замерла. „Дык, можа, гэта я чуў, як яе секлі?! — падумаў Міколка. — Нехта тут быў... Але хто? І чаму ўцёк, як злодзей? Недзе ён недалёка, і дзядуля зараз зловіць яго. Таму і падаўся нацянькі...“

**Працяг будзе.**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

СССР, 344078, г. Ростов-на-Дону, ул. Борко, 2, кв. 27. Марченко Ирине. 6 клас.

* * *

СССР, 344113, г. Ростов-на-Дону, ул. Королёва, 23, кв. 37. Гавриловой Марине. 7 клас.

* * *

СССР, 344080, г. Ростов-на-Дону, ул. Российская, 28 „А“, кв. 95. Мирошниченко Наташе. 2 клас.

* * *

СССР, 344080, г. Ростов-на-Дону, ул. Российская, 28 „А“, кв. 68. Светлане. 3 клас.

* * *

СССР, 309740, Белгородская обл., п. Ровеньки, ул. Горького, 23. Решетниковой Наташе. 8 клас.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты-55, пос. Майский, ул. Советская, 24-24. Захарова Лена. 5 клас.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Советская, 26, кв. 64. Демченко Людмиле. 7 клас.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, п. Майский, ул. Советская, 24, кв. 15. Юрьевой Галине.

* * *

СССР, 300041, г. Тула, ул. Советская, 18 „А“, кв. 83. Бежиной Лене. 6 клас.

* * *

СССР, Ростовская обл., г. Сальск, ул. Невского, 1„А“, кв. 7. Анопко Андрею. 7 клас.

* * *

СССР, 346515, Ростовская обл., г. Шахты, Нижегородский, 11. Лапшину Андрею. 7 клас.

* * *

СССР, 127486, г. Москва-486, ул. Дегунинская, 13, кв. 153. Света Попова. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.






**АДГАДАНКА**

Дзве асобы сярод людзей, якія сталі на аўтобусным прыпынку, не ўвайшлі ў аўтобус. Знайдзі, хто гэта. А хто быў ужо раней у аўтобусе?



Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Piątek** 23 VIII — 9.00 Domator — „Reksio obrońca". 9.10 Teleferie: Wakacje z komputerem+„Rozśpiewany autobus". 10.20 Domator — Porady. 10.30 DT. 10.40 Mikołaj Szuchaj-Zbójnik — film CSRS. 12.25 Domator — Życie od kuchni. 17.15 Program dnia. 17.20 DT. 17.30 Studio Lato. 18.50 Wystąpienie ambasadora Rumunii. 19.00 Dobranoc. 19.10 Tele-Gol. 19.30 Dziennik. 20.00 Monitor rządowy. 20.30 Sopot 85: Konkurs o Nagrodę Bursztynowego Słowika, cz. I. 21.35 DT. 21.55 Żniwa 85. 22.05 Sopot 85, cz. II. 23.15 Kronika Spartakiady Armii Zaprzyjaźnionych. 24.00 DT.

**Sobota** 24 VIII — 8.25 Program dnia. 8.30 Tydzień na działce. 9.00 Kino Teleferii: „Znak Orła" (odc. 11 i 12). 9.50 Gdzieś na krańcach świata. 10.20 Człowiek dla człowieka. 10.30 DT. 10.40 Letni przegląd Teatru Telewizji: Fiodor Dostojewski „Gracz". 12.20 Kino miliarda widzów. 12.45 Sobota na działce. 13.15 Morze wokół nas (4) — Zagadki oceanów. 13.55 Rezonans. 14.30 Militaria, obronność, nowoczesność. 15.00 DT. 15.10 Trybuna sejmowa. 15.40 „Wielka miłość Balzaka' (4) serial TP. 16.40 Sobota na działce. 17.00 Magazyn sportowy. 18.15 Losowanie dużego lotka. 18.25 Świat z bliska: Wenezuela — kraina legend. 19.00 Dobranoc: „Bolek i Lolek na wakacjach". 19.10 Sobota na działce. 19.30 Dziennik. 20.00 Sopot 85 — Koncert Galowy. W przerwie Studio Sport. 23.30 Kino nocne: „Alcatraz" (2) serial USA.

**Niedziela** 25 VIII — 7.40 Program dnia. 7.45 Po gospodarsku. 8.10 Tydzień — magazyn rolniczy. 8.50 Kino Teleferii: „Piękna i bestia" film NRD. 10.30 DT. 10.35 „Na ziemi i w głębinach" — „Margarita" — hiszp. serial dokum. 11.05 Spotkanie z pisarzem — Sławomir Łubiński. 11.35 Siedem anten. 12.35 Kraj za miastem. 15.10 Skarbiec. 15.50 W starym kinie: „U kresu drogi". 17.30 Kronika Spartakiady Armii Zaprzyjaźnionych. 18.20 Antena. 19.00 Wieczorynka:: „Mali mieszkańcy wielkich gór". 19.30 Dziennik. 20.00 „Diana" (odc. 10 — ost.) film tv ang. 20.50 Klub międzynarodowy. 21.25 Wayne Sleep i inni (cz. 2) — program rozr. 21.55 Sportowa niedziela. 22.40 DT.

**Poniedziałek** 26 VIII — 17.15 Program dnia. 17.30 Studio Lato. 19.00 Dobranoc: „O zajączku, który zabłądził". 19.10 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Teatr Telewizji: Bertholt Brecht „Strach i nędza III Rzeszy". 21.45 Żniwa 85. 21.55 DT. 22.15 Studio Lato. 22.50 Pegaz. 32.30 Studio Sport — MŚ w kolarstwie torowym. 24.00 DT.

**Wtorek** 27 VIII — 9.00 Domator — „Reksio nauczyciel". 9.10 Teleferie — Beznudna wyspa+„Pszczółka Maja". 10.05 Domator — Porady. 10.30 DT. 10.40 Film dla II zmiany: „Układ krążenia" (6) — „Huśtawka". 12.00 „Brazylia nieznana" (9), „Kolebka samby". 15.15 Program dnia. 17.20 DT. 17.30 Studio Lato. 19.00 Dobranoc: „Jak Cypisek nauczył raka krzesać iskry". 19.10 Klinika zdrowego człowieka — Wady postawy. 19.30 Dziennik. 20.00 Czas wyborów. 20.30 „Układ krążenia" (6) „Huśtawka" — serial TP. 21.50 DT. 22.10 Informator Wydawniczy. 22.30 Studio Lato. 23.00 DT.

**Środa** 28 VIII — 9.00 Domator — „Reksio". 9.10 Teleferie — Krąg — magazyn harcerzy+„Znak orła" odc. 13. 10.20 Domator — Ćwicz z nami. 10.30 DT. 10.40 Film dla II zmiany: „Die Erste Polka" film RFN. 12.20 Mini Spektrum — „Roboty". „Na orbicie". 16.10 Program dnia. 16.15 Studio Sport — MŚ w kolarstwie szosowym. 17.20 DT. 17.30 Studio Lato. Ok. 18.20 Losowanie express lotka i małego lotka. 19.00 Dobranoc: „Miś Uszatek". 19.10 Piłkarska kadra czeka. 19.30 Dziennik. 20.00 „Die erste Polka" film fabul. RFN. 22.00 Żniwa 85. 22.10 DT. 22.40 Studio Lato. 23.10 DT.

**Czwartek** 29 VIII — 9.00 Domator — „Reksio detektyw". 9.10 Kino Teleferii „A to heca"+„Pszczółka Maja". 10.05 Domator — Porady. 10.30 DT. 10.40 Film dla II zmiany: „Najemny morderca" włoski film fabul. 12.20 Domator — „Instynkt myśliwski os" — film RFN. 16.55 Program dnia. 17.00 Poligon. 17.20 DT. 17.30 Studio Lato. 19.00 Dobranoc: „Był raz tata". 19.10 Konto „M" — program public. o problemach ludzi młodych. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 „Najemny morderca" włoski film fabul. 21.55 DT. 22.15 PZU informuje. 22.30 Studio Lato. 23.00 DT.

## КІНО

**Bielsk Podl.** Wilczyca — pol. 24—26 VIII. 1941 — USA 27—29 VIII. Rok niebezpiecznego życia — austral. 30 VIII — 1 IX.

**Czeremcha** Tajemnica Aleksandra Dumasa — czes. 28 VIII. Miasto kobiet — wł. 31 VIII — 1 IX.

**Czyże** Narzeczona — NRD. Dom pod czerwoną latarnią — węg. 28 VIII — 1 IX.

**Hajnówka** Biały kruk — radz. 26—27 VIII. Tess — fr. 28—29 VIII. Tajemniczy Budda — chińs. 30 VIII — 1 IX.

**Gródek** Saturn 3 — ang. 31 VIII — 1 IX.

**Michałowo** Superpotwór — jap. 27—29 VIII. Głowy pełne gwiazd — pol. 30 VIII — 1 IX.

**Mielnik** Agonia — radz. 28 VIII — 1 IX.

**Milejczyce** Strach — pol. Tajemnice Kaliakty — bułg. 28 VIII — 1 IX.

**Narewka** Gniazdo złoczyńców — rum. Droga szkieletów — rum. 28 VIII — 1 IX.

**Nurzec** Urodziny Matyldy — pol. 28 VIII. Przeklęte oko Proroka — bułg. 29—30 VIII. Radykalne cięcie — czes. 31 VIII.

**Orla** Mistrz boksu — rum. Akcja pod arsenałem — pol. 28 VIII — 1 IX.

**Rajsk** Zabić drapieżnego ptaka — rum. Tyrnowska caryca — bułg. 28 VIII — 1 IX.

## ШТО-ДЗЕ-КАЛІ?

### НАЙЛЕПШАЕ МАСЛА З БЕЛЬСКА

Акруговая малачарская спулдзельня ў Бельску — адна з большых на Беласточчыне. Яе трохдзённай вытворчасці масла хапае на забеспячэнне патрэб мясцовага рынку. Таму масла высылае яна таксама ў паўднёвыя рэгіёны нашай краіны.

Малако ў парашку экспартуе між іншым, у Японію і Алжыр.

Бельскае масла належыць да лепшых у краіне. У мінулым годзе атрымала яно найвышэйшую ацэнку.

Зараз у бельскай малачарні працуе больш трохсот чалавек. З думкай аб выгодзе для масла-байцаў гэтае аддзяленне будзе перанесена на месца ранейшага складу. Цяпер ідзе рамонт памяшкання.

ОСМ у Бельску перапрацоўвае за год каля 94 мільёнаў літраў малака. Калі ёсць прадукцыйная моц, тады прымае малако таксама з іншых падобных спулдзельняў. **(яц)**

### СКУПКА МАКУЛАТУРЫ Ў КЛЯШЧЭЛЯХ

У многіх крамах сустракаю паведамленні, што той ці іншы тавар можна купіць за макулатуру і іншую паўторную сыравіну. А дзе яе прадаць?

Даўней па вёсках ездзілі „шмацяры", „анучнікі", у якіх можна было абмяняць анучы на каструлю, міску, чайнік, ці іншы дэфіцытны тавар. Цяпер „анучнікі" недзе западзеліся.

У чэрвені, бадай, прыехаў быў нехта грузавіком у Чаромху і можна было ў яго прадаць паўторную сыравіну. Хто прачытаў аб'яву гмінных управы, што будзе скупка, справу аформіў. Хто не прачытаў — прапала.

Я сам ужо надумаўся везці анучы ў Бельск Падляшскі. Аднак выпадкова даведаўся ад працаўнікоў кляшчэлеўскага ГСу, што ўжо ад 1 жніўня пачынаецца ў Кляшчэлях скупка макулатуры і паўторнай сыравіны. Ну і добра. **(ус)**

**Куток філатэліста**

### ТРЭБА ПАКАЗВАЦЬ ГЕРОЯЎ

Ніколі нельга забываць аб іх, хоць і многа гадоў ужо прайшло ад вайны. І савецкая філатэлістыка гэта робіць. Вось у мінулым годзе быў выпушчаны маркіраваны канверт з партрэтам героя Савецкага Саюза капітана Івана Серады (1905-1941). Званне Героя Савецкага Саюза бясстрашнаму капітану было прысвоена пасмяротна ў 1965 годзе. Сёння адна застава на заходняй граніцы СССР называецца яго імем.

А цяпер некалькі слоў з біяграфіі героя. Іван Серада радзіўся ў сям'і шахцёра. У 17 гадоў цвёрда рашыў звязаць свой лёс з арміяй. У 1941 г. ён камандаваў атрадам на заходняй граніцы Савецкага Саюза. У цяжкіх баях з ворагам атрад страціў большую частку людзей, і капітан рашыў прабівацца на ўсход да сваіх. 14 ліпеня 1941 года на станцыі Папельня завязаўся цяжкі бой з нямецкімі танкамі і мотапяхотай. Капітан загадаў атраду адступаць, а сам прыкрываў іх адыход агнём з кулямёта. Супраць горстачкі салдатаў фашысты кінулі танкі. Капітан быў ранены ў абедзве ногі, але бой прадаўжаў.

Усе салдаты з яго атрада загінулі, а яго, цяжка паранёнага, гітлераўцы схапілі. На зверскіх пытках капітан маўчаў. Немцы прывязалі яго да дрэва і спалілі жывым. Так закончылася кароткае жыццё бясстрашнага салдата.

Хто дакументуе ў сваіх калекцыях герояў Савецкага Саюза ІІ сусветнай вайны, у таго павінен быць канверт з партрэтам І. М. Серады. **В. Брацкі**




**Ці Ты ўжо выпісаў „Ніву" на IV квартал? Зрабі гэта неадкладна!**

### МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132.

У замежнай валюце Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5018-24325-151-6787.

Спісак чарговых ахвяравальнікаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 291. | Настаўнікі Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай моваі навучання ў Гайнаўцы | — | 11600 зл. |
| 292. | Аляксандра Бергман (Варшава) | — | 1078 зл. |
| 293. | Кастусь Пятэльскі (Крушыняны) | — | 294 зл. |
| 294. | Працаўнікі ОСМ у Гайнаўцы | — | 8400 зл. |
| 295. | Зофія і Антоні Клюкі (Радам) | — | 300 зл. |
| 296. | Лідзія Бялецкая (Беласток) | — | 2000 зл. |
| 297. | Пачатковая школа ў Дубічах Царкоўных (IV — VIII класы) | — | 7800 зл. |
| 298. | Пачатковая школа ў Орлі | — | 6216 зл. |
| 299. | Праўленне аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Варшаве | — | 20000 зл. |

Дзякуем.

Паведамляем таксама, што цэнтры збірання экспанатаў для музея знаходзяцца ў наступных месцах:

у Пачатковай школе ў Рыбаках, гміна Міхалова,
у будынку былога ПЗГС у Гайнаўцы,
у клубе БГКТ у Бельску, вуліца Міцкевіча 50/54,
у клубе БГКТ у Гайнаўцы, вуліца Вызвалення 6,
у Гміным камітэце ПАРП у Мілейчычах,
у Саколцы, вуліца Варынскага 1,
у ГП БГКТ у Беластоку, вуліца Варшаўская 11.

Чакаем экспанатаў або інфармацыі аб месцы іх знаходжання.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ

**Сустрэча з Янам Дабрачынскім ● Селянін — паэт ● Алесь Барскі аб дзяржаўнасці і нацыянальнасці ● Літаратурная старонка ● Шляхам гадоў — спроба адбудаваць імперыю ● У „адгалосках" мара пра выкарыстанне шанцаў ● Як Васіля Петручука жонка карміла яйкамі, і што з гэтага выйшла ● Уражанні Г. Тапалянскай з Мінска ● „На Ганну" ● Франтавы дзённік Аляксея Карпюка ● Таямніцы залатой розгі ● Для дзяцей — „Зорка" ● Што-дзе-калі ● Гумар**

## — КАЛЯНДАР —

**305 гадоў назад**

25.8.1680 пам. Сімяон Полацкі, беларускі грамадскі і царкоўны дзеяч, педагог, пісьменнік і публіцыст.

**215 гадоў назад**

27.8.1770 нар. Г. Гегель, нямецкі філосаф.

**85 гадоў назад**

25.8.1900 пам. Ф. Ніцшэ, нямецкі філосаф.

**75 гадоў назад**

25.8.1910 нар. У. Корбан, беларускі паэт-байкапісец.


# Ніва

**ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА**

**Галоўны рэдактар**
**Георгій Валкавыцкі**
**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**„Niwa"**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok skr. poczt. 149**
**tel. 232-41**

. . . . . . . .

Wydawca Białostockie Wydawnictwo Prasowe. 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Druk Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku. Cena prenumeraty kwart. 104 zł; półr. 208 zł; rocznej 416 zł.

**WARUNKI PRENUMERATY:**

1. dla osób prawnych — instytucji i zakładów pracy:
   — instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miastach wojewódzkich i pozostałych miastach w których znajduje się siedziba Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" zamawiają prenumeratę w tych Oddziałach:
   — instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" i na terenach wiejskich opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli;
2. dla osób fizycznych — indywidualnych prenumeratorów:
   — osoby fizyczne zamieszkałe na wsi i w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli.
   — osoby fizyczne zamieszkałe w miastach — siedzibach oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych nadawczo-oddawczych właściwych dla miejsc zamieszkania prenumeratora. Wpłaty dokonują używając „blankietu wpłaty" na rachunek miejscowego Oddziału RSW „Prasa-Książka-Ruch".
3. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 23, 00-953 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie Nr 1153-201045-139-11. Prenumerata ze zleceniem wysyłki za granicę pocztą zwykłą jest droższa od prenumeraty krajowej o 50 proc. dla zleceniodawców indywidualnych i o 100 proc. dla zlecających instytucji i zakładów pracy.

Termin przyjmowania prenumeraty na kraj i za granicę:

— do dnia 10 listopada na I kwartał, I półrocze roku następnego oraz cały rok następny.
— do dnia 1 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty roku bieżącego.

Zam. 1517/85 r. Nakład 3.500. G-3.

# ПУСТАЗЕЛЛЕ

Сярод іншых недаробак
Ёсць у нас яшчэ хваробы,
Што грамадства непакояць,
Бо людзей атрутай пояць.
Возьмем, скажам, мы Ігната...
Хоць ён ростам малаваты
І на выгляд прасцячок,
Просты шэры мужычок.
А калі здабыць што трэба —
Ён дапнецца хоць да неба.
Тут паклянчыць, там — паплача.
Хабар дасць ці абдурачыць:
Для сябе усё ён можа,
А другім не дапаможа...
Ну, а вось таму Данілу —
Без гарэлкі свет нямілы,
Да таго ён дакаціўся —
З працай, з жонкай разлучыўся,
Адну радасць толькі й мае,
Што бутэльку абдымае.
Што яму сумленне, сорам?
Служыць плот яму апорай...
Гэты ж Пецька — усялюб:
Што ні год, то новы шлюб.
Параскідваў ён па свету
Многа жонак, многа дзетак...
Дый рахманы ціхі Клім —
З падхалімаў падхалім —
На вачах людскіх, наўкола
Выстаўляецца анёлам.
А на справе ўсіх прадасць,
Калі больш яму хто дасць...
У грамадстве нашым слаўным
Няма глебы для заганаў.
Тут мы самі вінаваты:
Да п'янчуг і бюракратаў,
Да хапуг і падхалімаў
Часам ставімся цярпіма.
Іх нярэдка патураем,
На іх вочы закрываем.
А тут разам дружна трэба
Выбіваць з-пад ног ім глебу.
Для такога пустазелля —
Нецярпімасць — наша зелле.

**Мікалай Місюк**



# НІЎКА



Бусел эпохі НТР.

### КАСТУСЬ-ПАРАШУТЫСТ

Група парашутыстаў зрабіла вучэбны скачок. Інструктар аглядае пусты самалёт і прыкмячае адзінокую фігуру.

— Чаму ты тут, Кастусь? — пытае інструктар. — Ты ж скочыў першым!

— Так, але ў мяне не раскрыўся парашут, і я вырашыў вярнуцца.

### ГАЛЁШ

— Тата, як гуляла наша футбольная дружына? — пытае Міколка.

— Дрэнна, — адказвае тата. — Супернікі пасадзілі нашых футбалістаў у галёш.

— Усю дружыну пасадзілі? — перапытвае Міколка. — Уяўляю, якія гэта галёшы. Мабыць, такі, як наша хата.

### ЗАГАДКА

— Чаму пісьменнік Н. піша толькі пра жывёлін?

— Таму, што яны не ўмеюць чытаць.



Ён так красамоўна маўчаў, што прымушаў гаварыць пра сябе іншых.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Цэлы дзень трактарысты Іван ды Пятро прап'янствавалі ў полі. Іван кажа:

— А што скажам брыгадзіру, калі спытае, што мы зрабілі за дзень?

Пятро падумаў:

— Ну, скажам, што да абеду заводзілі трактар.

— А пасля абеду?

— Скажам, што глушылі.

*

Размаўляюць дзве шатландкі:

— Твой муж багаты?

— Думаю, ён не самы бедны чалавек у нашай краіне: учора я адкрыла яго бумажнік, і адтуль выпырхнулі чатыры молі.

*

Палітык гаворыць жонцы:

— Можаш мяне павіншаваць — я выбраны!

— А ты не ашукваеш?

— Не, дарагая, цяпер гэта ўжо не патрэбна!

### ГОРДАСЦЬ НЕ ДАЗВАЛЯЕ

— Слухай, Мікола, — пытае жонка, — чаму твае калегі атрымліваюць кожны месяц прэміі, а ты не?

— Таму, што я горды! — адказвае муж. — Яны як прыходзяць на працу, дык адразу ж і пачынаюць бегаць перад начальствам. Я ж лічу за лепшае зусім не з'яўляцца на заводзе, чым так сябе прыніжваць...

З „Весніка Задрыпоніі"

### ТЭХНІКА І ПРЫРОДА

Палёт птушак з дзяцінства прыцягваў увагу авіяканструктара А. Бяскрыловіча. Гады прайшлі ў вынаходлівага канструктара на вывучэнне палёту вароны і пабудову мадэлі. Урэшце, калі ўсе цяжкасці былі ззаду, а мадэль дастаўлена на выпрабавальны палігон, яна каркнула і паляцела.





— А ў мяне водабоязь.



# Курёзы

### БАЦЬКА НА ПРОДАЖ

19-гадовая англійская дзяўчына Кендра Блейн з горада Брыстоля вельмі абуралася пастаяннымі сваркамі між яе бацькамі. Пасля чарговай сваркі яна змясціла ў мясцовай газеце аб'яву, у якой прапанавала на продаж свайго бацьку Дэйва Блейна. Пры гэтым зазначыла, што ён „лагодны і верны муж, хоць крыху тугадум, але ў яго зберагліся яшчэ некалькі валасінак на галаве і некалькі ўласных зубоў".

Вынік быў неспадзяваны: больш сотні жанчын, жадаючы разжыцца на ўласнага мужа, звярнуліся тэлефанічна, поштай, а то і асабіста, з прапановай „прыдбаць містэра Блейна".

„Пакупніцы" былі вельмі расчараваныя, калі ім адказвалі, што гэтую аб'яву не трэба прымаць сур'ёзна.

### СПАКОЙНАЙ НОЧЫ

Вядома, што Д. Мендзялееў аднойчы ўва сне ўбачыў табліцу, якую потым назвалі „Перыядычнай сістэмай элементаў Д. Мендзялеева".

Але, на жаль, сон яму да канца даглядзець не далі, разбудзілі. Таму табліца так і засталася з некаторымі пустымі клеткамі.




**Пункт погляду залежыць ад становішча таго, што глядзіць.**